# Палачанка

**Полацкая легенда**

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ**

Рагвалод — князь полацкі.
Рагнеда — князёўна полацкая.
Уладзімір — князь наўгародскі.
Дабрыня — дзядзька Уладзіміра.
Блуд.
Любава.
Мамулька.
Браціла.
Скамарох.
Селянін.
Палясоўшчык.
Дружыннікі, слугі, дзяўчаты.

Дзея адбываецца ў 978 годзе ў Полацкім і Наўгародскім княствах.

# АКТ ПЕРШЫ

## Карціна першая

Ноўгарад. Пакой у крамлі. Уваходзяць Дабрыня і Браціла.

Браціла
Ганец да князя з Кіева!

Дабрыня
Пакліч.

Браціла прыводзіць Блуда.

Блуд
Віват табе, шаноўны ваявода!

Дабрыня
Якія весткі ты прывёз?

Блуд
На жаль,
Я засмуціць павінен буду князя...
У бойцы з печанегамі загінуў
Князь Святаслаў...

Дабрыня
Як гэта адбылося?

Блуд
Там, на Дняпры, каля парогаў самых,
Знянацку наляцелі печанегі.
Дружына была стомленай...

Дабрыня
І што?

Блуд
Пабілі ўсіх... А князю галаву
Адсеклі. З чэрапа зрабілі сабе чару,
І з чары гэтай іхні п'е важак...

Дабрыня
Што ў Кіеве?.. Хто сеў там на пасад?

Блуд
Там Яраполк цяпер, бо ён старэйшы...
Па бацьку трызну робіць... Загадаў
Сваім братам малодшым, каб усе
Прынеслі Перуну сваю ахвяру —
Ахвярай быць павінен чалавек,
Юнак прыгожы... Самы смелы воін...
Ён будзе Святаславу ТАМ служыць...
І гэта для Уладзіміра — загад...

Д а б р ы н я

Але Ўладзімір кляўся наўгародцам
Ахвяр людскіх багам больш не прыносіць.
Як жа цяпер парушыць слова князю?

Б л у д

Парушыць нешта трэба... Альбо слова
Ці волю брата... Кіеўскага князя...
А гэта... ўжо да бацькі непавага,
Да мёртвага! Да князя Святаслава...
За гэта можна і пасад згубіць...

Д а б р ы н я

Ці не страшней згубіць людзей павагу...

Б л у д

Ды хіба людзі могуць паважаць,
Любіць ці шанаваць таго, хто зверху?
Яны баяцца могуць... Як сабакі...
Ты моцны — любяць... Слабы — загрызуць.

Д а б р ы н я

Я ў чарку нават золата насыплю,
Каб не ахвяраваць багам людзей...

Б л у д

Ахвяраваць кагосьці давядзецца.
А хрысціяне ў Ноўгарадзе ёсць?

Д а б р ы н я

Так, ёсць...

Б л у д

Хто-небудзь з іх ахвяраю хай будзе...

Д а б р ы н я

Але Ўладзімір абяцаў...

Б л у д

Няхай
Разам з усімі стане і Ўладзімір
Пад жэрабя ахвярнае...

Д а б р ы н я

Ты што?
А калі выпадзе?..

Б л у д

Не выпадзе! Падумай...
Падумай! Скамароха падкупі,
Хай ён сляпым прыкінецца
І цягне... сумленна да ахвярнага слупа
Таго... каго ты скажаш...

Д а б р ы н я

Але князь
Не пойдзе на падман...

Б л у д

Навошта ж
Яму ўсё ведаць? Гэта толькі мы...
Мы — слугі княскія, хлусіць заўжды павінны,
Мы — грэшныя, а князь заўсёды чысты,
Сумленны, светлы... і для ўсіх як бог...
А што б без нас ён, гэткі чысты, змог?
А тут... ён першы прыклад паказаў,
Пад жэрабя ахвярнае сам стаў...
Высакародства дурні так шануюць...
Забі іх потым, ўсё табе даруюць.
Ах, нешта ў горле смажыць і гарыць,
Ты абяцаў насыпаць ці наліць?

Д а б р ы н я

Я за цябе усіх багоў малю.
Хадзем, мой брат! Насыплю і налью...

Выходзяць.

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна другая

Полацк. Палац Рагвалода.

Уваходзіць Р а г н е д а. М а м у л ь к а нясе на руках Л ю б а в у.

Р а г н е д а

Кладзі сюды і прынясі ёй мёду.

М а м у л ь к а выходзіць.

Здымай сарочку! Вось табе ручнік.
Стань ля цяпла і хутка расцірайся.

Любава распранаецца.

Ссінела ўся! Дрыжыць...

Л ю б а в а

Я не магу...

Р а г н е д а

Давай сюды!
*(Расціраe Любаву ручніком.)*

Л ю б а в а

А дзе я?

Р а г н е д а

У палацы...

Л ю б а в а

А як цябе зваць?

Р а г н е д а

Мяне завуць Рагнедай...

Л ю б а в а

Князёўна наша?!

Р а г н е д а *(падае Любаве сарочку)*

Гэта апрані...

Л ю б а в а

Я ў княскае? Не, не...

Р а г н е д а

Тады будзь голай...
Ану, нясіце мёд хутчэй сюды!

Уваходзіць М а м у л ь к а. Любава хутка апранаецца. П'е мёд.

М а м у л ь к а

Я б тых, хто топіцца, спачатку ўратавала,
Дала б па срацы сотню бізуноў,
Пасля б дурную утапіла ў цэбры.

Р а г н е д а

Сагрэлася? Як ты ў Дзвіну нырнула?

Л ю б а в а

Мяне туды мой бацька падпіхнуў.
У цівуна шмат грошай ён пазычыў
І мною разлічыцца захацеў,
Дачкою роднай...

Р а г н е д а

Замуж хацеў выдаць?
Без тваёй згоды — гэта страшны грэх...
Перад багамі... Ды і перад князем...

М а м у л ь к а

Няможна без кахання зацяжараць —
Ярылу крыўда... Ён за гэта ўдарыць!

Л ю б а в а

Цівун жаніцца хоча...

Р а г н е д а

Гэта гвалт...

М а м у л ь к а

Скажы, як называць цябе?

Л ю б а в а

Любава...

Р а г н е д а

Любава... Ты задумала ўтапіцца?

Мамулька

Раней пары прыйсці да Мары ў госці...
Грэх вельмі цяжкі...

Любава

Што ж было рабіць?
Пакуль жывая, дык цівун паскудны
Ад бацькі не адчэпіцца ніколі.
Ён супакоіцца, як толькі я памру...

Мамулька

Ты выйдзі замуж і зрабі што-небудзь,
Каб ён раней пары сам акалеў...
Стары кабель, а бач ты! Хоча дзеўку!

Рагнеда

А ты кахаеш іншага?

Любава

О, не!
Раней з Ярылам трэба ажаніцца
Дзяўчыне... А кахаць хлапцоў пасля...

Мамулька

Ўсё зладзіцца... Ўсё будзе сваім часам.

Рагнеда

З табой мы да Ярылы пойдзем разам.

*Зацямненне*

## Карціна трэцяя

Ноўгарад. Гара. Пантэон ідалаў. Уваходзяць князь Уладзімір, Дабрыня і народ.

Дабрыня

Будзь, Уладзімір, мужным... і багі
Зробяць усё, што будзе нам патрэбна.
Звярніся да народу.

Уладзімір

Наўгародцы!
Народ адважны! Вольны, светлы люд!
Па просьбе вашай я цяпер тут княжу.
Заўсёды слухаў мудры голас веча,
Заўжды рабіў, што вам паабяцаў...
Вы верылі мне, вы мяне любілі...
Пачціва, нізка кланяюся вам!
За вас, мой люд, сваё жыццё аддам!

Н а р о д

Гонар і слава, князь наш Уладзімір!

Д а б р ы н я *(адводзіць убок Скамароха, пераапранутага ў старца)*

Ўбок адыдзі, чакай, пакуль паклічуць.
Вось золата... Глядзі не памыліся,
А то напраўду зробішся сляпым...

С к а м а р о х

Усё зраблю...

Д а б р ы н я

Вунь той... Стаіць за князем...

С к а м а р о х

А-а, ведаю... Ён моліцца Хрысту...
Прыгожы хлопец...

Д а б р ы н я

Прэч пайшоў! Браціла!

С к а м а р о х выходзіць. Да Дабрыні падыходзіць д р у ж ы н н і к.

Ён справу скончыць, скончыш ты яго...
Князям па смерці, трэба й скамарохі.

Адыходзяць.

У л а д з і м і р

У Кіеве загінуў Святаслаў,
Мой бацька родны. Ён прыслаў мяне
Да вас на княства. Гэта маё гора...
Але на вас зваліласяя бяда...
Кіеў ад нас ахвяру патрабуе,
Каб князю ў княстве мёртвых паслужыць,
Я абяцаў, што болей аніколі,
Пакуль я князь, ахвяр такіх не будзе.
А Яраполкаў Кіеў патрабуе
Крывавую даніну заплаціць...
Я ў роспачы! Парайце, што рабіць...

Маўчанне.

Тады я сам, як князь, прыму рашэнне...
Князь Святаслаў — мой бацька, і як сын
Служыць яму я лепш за іншых буду...
Сябе ў ахвяру лепей прынясу,
А слова не парушу...

Д а б р ы н я

З глузду з'ехаў!
Дружына! Людзі добрыя! Народ!

Высакародства князя нас штурхае
На ганьбу! На бясслаўе... Няўжо мы
Князя свайго ды пусцім на пагібель?
На страту... Намі ж будуць пагарджаць!

Народ

Не! Не! Не!

Дабрыня *(шэптам дружынніку)*

Брацiла, гавары,
Што пойдзеш замест князя як ахвяра...

Брацiла

Гатовы я пайсці!

Народ

І я пайду! І я! І я!

Уладзімір

Браты мае, я плачу... Мае слёзы
Не слабасць, а бязмежная падзяка
Вам за любоў... Я разам з вамі стану
Пад жэрабя ахвярнае...

Народ

Не! Не! Не!..
Не рызыкуй, ты князь!

Уладзімір

Маўчаць, дружына!

Дабрыня

Усім маўчаць і слухаць свайго князя!

Уладзімір

Мой лёс — ваш лёс, жыццё — ваша жыццё.
Я роўны вам, бо вы мае браты.
Я буду поплеч з вамі тут стаяць,
І хай багі з усіх нас выбіраюць...

Маўчанне.

Дабрыня

Хай будзе так... Пярэчыць князю нельга.
Вядзіце старца! Людзі, ён сляпы...
І перад кім, нямоглы, ён укленчыць,
Той пойдзе да ахвярнага слупа,
Хоць гэта князь, хоць смерд. Вядзіце старца!

Прыводзяць Скамароха. Той, прыкідваючыся сляпым, ходзіць паміж людзей. Усе знямелі. Скамарох спыніўся каля Уладзіміра.

Скамарох

Тут... Тут... Я чую гэта... тут!

Брацiла

Ён князя выбера...

**Д а б р ы н я**

Паскуда, што ён робіць?

Скамарох укленчыў перад **х л о п ц а м**, што стаяў побач з Уладзімірам, і абняў яго за калені. Радасныя крыкі. Усе кідаюцца да хлопца, зрываюць з яго адзенне і цягнуць да ахвярнага слупа.

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна чацвёртая

Паляна ў лесе каля Полацка. Драўляная выява бога. **Д з я ў ч а т ы** распранаюцца і спяваюць.

**Д з я ў ч а т ы** *(спяваюць)*

Благаславі, Ярыла,
Каб было шчасліва
На добрыя роды,
На многія годы.
А-а-ах!
Благаславі нас, божа,
На добрага мужа,
Каб любіць-кахаці,
Каб было дзіцяці.
А-а-ах!
Благаславі, маці,
Свайму дзіцяці,
Каб было жытліва,
Да веку шчасліва,
А-а-ах!
*(Знікаюць.)*

Уваходзяць **С е л я н і н** і **П а л я с о ў ш ч ы к**.

**С е л я н і н**. Лепш мець лішнюю карову, чым дачку-дзеўку... *(Кліча.)* Любава! Любава! Нядаўна тапіцца бегала і зноў некуды знікла. Дзе яна можа быць?..

**П а л я с о ў ш ч ы к**. Мінулым летам Ярылу ладзілі на гэтай паляне... Вось тут скідалі адзенне, тут на досвітку рэзалі галовы белым пеўням, вымазвалі іх крывёй сабе грудзі і жываты... І вадзілі карагод вакол ідала... І ўсе так стогнуць, стогнуць...

**С е л я н і н**. Мая яшчэ малая была...

**П а л я с о ў ш ч ы к**. Значыць, падрасла...

**С е л я н і н**. А я думаў, куды белы певень падзеўся... Такі галасісты быў...

**П а л я с о ў ш ч ы к**. Адкукарэкаў... Крывёй ягонай голыя жываты мажуць...

Селянін. Хаця б які-небудзь дзяцюк ёй уласную кроў не пусціў... голай...

Палясоўшчык. Што ты! На гэтае відовішча ніякага хлопца на вяроўцы не зацягнеш... Ярыла не даруе таму, хто паглядзіць на дзявочыя ахвяры яму... Кажуць, што як толькі зірнеш... адразу... шась! Як адрэжа... на ўсё жыццё. Так што... лётаюць, скачуць голымі, колькі захочуць. Мужчыны баяцца вокам кінуць.

Селянін. А ты ж глядзеў.

Палясоўшчык. Эх, браце... Мне ўжо ані Ярыла, ані Пярун... з гэтым... нічога не зробяць... Я сваё адкукарэкаў...

Селянін. Ой, багоў багата. І з кожным трэба ладзіць... І ўсе есці хочуць. Холадна — нясі ахвяру Дажбогу, каб сонца даў, засушыла — рэж ягня перад Макрынай... А там яшчэ Стрыбог, Хорс... А нячысцікаў колькі! З імі ж таксама па-добраму трэба... І іх падкармлівай, і ім давай... Во сёння дзеўка пеўня знесла Ярылу... І што зробіш... Не намажаш крывёю грудзі і жывот... пустыя ўсё жыццё будуць...

Палясоўшчык. Гэта што! Наш Рагвалод хоць людзей перад ідаламі рэзаць забараняе... А ў Кіеве, у Ноўгарадзе... Толькі бяда якая страшная наваліцца... кідаюць жэрабя на самых гожых маладых хлопцаў і дзяўчат... На каго выпала, цягнуць няшчаснага да слупа, рэжуць... і крывёю з усіх бакоў ідала мажуць...

Селянін. І чалавечыну багі любяць...

Палясоўшчык. Яны нічым не грэбуюць... Хоць хлеб, хоць мяса, цыбуля, малако, мёд... Усё ядуць... А от наш цівун казаў, што ёсць такая зямля, дзе Бог адзін... Адзін.

Палясоўшчык. Ідзі ты!

Селянін. Клянуся Перуном! На ўсіх адзін і на ўсё адзін... Як князь... Хрыстос!

Палясоўшчык. Не можа быць... Не справіцца ён адзін...

Селянін. А я табе кажу...

Палясоўшчык. Стой! Тут выварацень... Не пераступі яго глядзі! А то нас лесавік да рання па лесе вадзіць будзе...

*Выходзяць. Гукі паляўнічага рога. З'яўляюцца* Уладзімір і Дабрыня.

Дабрыня

Прыпынімся... Далей пайшла града,
Урочышча... Мяжа чужога княства,
Там уладанні князя Рагвалода.

Уладзімір

Што ж наш алень збег у чужое княства?

Дабрыня

Іх княства — ўсе лясы.

Уладзімір

А мо дагонім?

Дабрыня

Багата сёння здабылі дзічыны.
Вунь сонца ружавее, хутка ноч.
Дружына заслужыла адпачынак
І чарку мёду. Абвясці прывал.

Уладзімір

Прывал!

Дабрыня

Прывал!
Вось тут, пад гэтым схілам!
На беразе ракі разбіце стан.
Засмажце вепрука і дзве казулі,
Рыхтуйце для вячэры пышны стол.
Ну, [redacted] цяпер прывальную для князя!

Выходзяць. З'яўляюцца дзяўчаты. Водзяць карагод вакол ідала. Спяваюць. Вяртаюцца Уладзімір і Дабрыня.

Уладзімір

Што яны робяць?

Дабрыня

Жэняцца з Ярылам.
Каб потым лепш з мужамі жыць было.
Каб муж жадаў яе і быў жаданым.

Уладзімір

А кроў адкуль?

Дабрыня

Скруцілі пеўню шыю...
І богу выдаюць як за сваю,
Як быццам толькі страцілі цнатлівасць,
Сваю дзявоцкасць аддалі яму...

Уладзімір

Такі абрад я ў Кіеве не бачыў.

Дабрыня

Тут люд больш дзікі, хоць і больш сумленны.
Пайшлі, пайшлі...

Уладзімір

Ідзі, я пагляджу...

Дабрыня

Ну, добра... Будзь супернікам Ярылу...
*(Выходзіць.)*

Уладзімір назірае нейкі час, потым збіраецца ісці і сутыкаецца з Рагнедай.

У л а д з і м і р

Ці ты з людзей, ці дух лясной багіні?

Р а г н е д а

А ты адкуль? Ты бог ці чалавек?

У л а д з і м і р

Святлее ўсё наўкол...

Р а г н е д а

Дзень надыходзіць.

У л а д з і м і р

Але ж нядаўна наступіла ноч!
Сваім з'яўленнем ты яе прагнала,
Я сонца бачу...

Р а г н е д а

Не, не падыходзь!
Не на дабро я тут цябе сустрэла.
Але сустрэць усё жыццё хацела...
Не трэба, не!

У л а д з і м і р

Чаму?

Р а г н е д а

Глядзіць Ярыла.
Я гэтай ноччу жонка для яго...

У л а д з і м і р

Калі разумны, хай не падглядае...
*(Цалуе яе.)*

Р а г н е д а

Што ты зрабіў?! Ён люта пакарае...
*(Выбягае.)*

У л а д з і м і р

Няхай карае! Хай хоць і заб'е.
Я пакахаў. Я пакахаў яе.
Куды ты? Пачакай! Скажы сваё імя!
Маёю будзеш. Ды ты ўжо мая!
*(Выбягае.)*

Д з я ў ч а т ы *(спяваюць)*

Блаславі, Ярыла,
Каб было шчасліва,
На добрыя роды,
На многія годы.
А-а-ах!

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна пятая

Лес. Уваходзяць С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к.

С е л я н і н. Ночка добрая, ночка светлая, а не люблю...
П а л я с о ў ш ч ы к. Чаму?
С е л я н і н. Пасля яе дзень пачынае карацець.
П а л я с о ў ш ч ы к. Ну дык што?
С е л я н і н. Не люблю...

Убягае У л а д з і м і р.

У л а д з і м і р
Я — князь! Сюды! Патрэбна дапамога.
С е л я н і н
Пачціва, нізка кланяемся, князь.
П а л я с о ў ш ч ы к. І чым дапамагчы мы можам князю?
У л а д з і м і р
Ці не сустрэлі толькі што дзяўчыну?
С е л я н і н
Ды сёння іх тут, княжа, поўны лес.
Я сам дачку згубіў, цяпер шукаю...
У л а д з і м і р
Тутэйшыя вы?
П а л я с о ў ш ч ы к. Так, з Полацка. Хлопы Рагвалода...
С е л я н і н. А ты, князь, каго згубіў?
У л а д з і м і р. Дзяўчыну...
С е л я н і н. Як завуць?
У л а д з і м і р. Не ведаю.
П а л я с о ў ш ч ы к. А скуль?
У л а д з і м і р. Невядома.
П а л я с о ў ш ч ы к. А якая яна?
У л а д з і м і р. Не помню.
С е л я н і н. Абавязкова знойдзеш, калі так...
У л а д з і м і р. Яна незвычайнай прыгажосці...

С е л я н і н. Тады гэта мая жонка... Праўда, яна была такой гадоў трыццаць таму. Калі мела грудзі і не мела злосці, а зараз наадварот. А ўвогуле ўсе дзеўкі полацкія прыгожыя, і я, любы княжа, з задавальненнем выпіў бы піва за здароўе той, якую вы шукаеце...

У л а д з і м і р
Вунь, каля рэчкі, паляўнічы стан —
Туды ідзіце. Вас там пачастуюць.
І піце хоць да раніцы. Пайду,
Сябе згублю, але яе знайду...

С е л я н і н

Мой княжа! Мы да раніцы і ўдзень,
І ўвечар, і ўначы... Хоць цэлы тыдзень
Піць за здароўе добрай дзеўкі рады!

Выходзяць. З'яўляецца Р а г н е д а.

Р а г н е д а

Ён пацалункам сонца запаліў...
Гарыць агонь ў маіх грудзях дзявочых.
Ярылаву нявесту загубіў,
Забраў ў палон купальскай ціхай ноччу...
Ты чый? Ты хто і як цябе завуць?
Бягу я прэч, але іду насустрач —
Лель з Ладам у душы маёй пяюць...
Ты святам стаў, астатняе ўсё — пустач...
Святы Ярыла! Можа, гэта сон?
І хутка я у Полацку прачнуся...
Не, не! Не трэба! Хай не знікне! Ён!
Няхай я сплю... Прачнуцца я баюся.
*(Выходзіць.)*

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна шостая

Ноўгарад. Пакой у крамлі. У л а д з і м і р, Д а б р ы н я, с л у г і, д р у ж ы н н і к і, с к а м а р о х і.

Д р у ж ы н н і к і *(спяваюць)*

Гэй вы, слугі верныя,
Налівайце чары поўныя,
Адну чару — зелена віна,
А другую — піва п'янага,
А трэцюю — мёду пеннага.
Налівалі чары поўныя,
Налівалі піва п'янага,
Налівалі мёду пеннага.
Пазлівалі чары поўныя,
Пазлівалі ды ў адзіную.
Стала чара мераю ў вядро,
А вагою ў паўтара пуда,
Падносілі Уладзіміру,
Сонца — князю наўгародскаму.

На срэбным падносе падаюць чару Уладзіміру.

Уладзімір

За наўгародскі люд!

Дабрыня

За князя!

Дружыннікі. Слава! Слава!

Уладзімір і Дабрыня п'юць.

Дабрыня

У добры час прыйшлі паслы у Кіеў
І папрасілі князя для сябе,
І ў добры час ты пагадзіўся, княжа.
Старэйшыя твае браты на поўдні
Каторы год грызуцца між сабой...
А Ноўгарад мацнее з кожным годам
Ў багацці, у пашане і ў святле...

Уладзімір

Аднак яшчэ даніну ў Кіеў шле.

Дабрыня

Хвошч іншым разам і вышэй за дуба,
Ды дуб расце... І пустазеллю — згуба.

Уладзімір

Даволі! Прэч з вачэй!

Дабрыня

Пакіньце князя...

Слугі выходзяць.

Ты змрочны і як воўк галодны, злы...

Уладзімір

Я і напраўду з голаду памру,
Калі яе яшчэ раз не пабачу.
Ты абяцаў знайсці яе...

Дабрыня

А як? Ты загадаў, зрабі, як я жадаю!
А што жадаеш, ты не знаеш сам!
У тых мясцінах дзесяць палачанак
Мы скралі для цябе — ты адсылаў,
За перапуд узнагароду даўшы.
Любая з іх здаволіць Перуна.
Суніцы спелыя, а для цябе не тыя...
Ты, перапіўшы мёду, можа, трызніў?
Ці беражніцу дзікую сустрэў?..

Уладзімір

Як з князем размаўляеш ты?

Д а б р ы н я

Як дзядзька.
І як тваёй матулі родны брат,
Што ў Кіеве цябе калісьці няньчыў.

У л а д з і м і р

Я ўспомніў!

Д а б р ы н я

Ну, нарэшце...

У л а д з і м і р

Вочы, вочы!

Д а б р ы н я

Што вочы?

У л а д з і м і р

Як у мацеры былі.
Яны ласкава ў сэрца мне глядзелі...

Д а б р ы н я

Малуша вельмі ясны позірк мела.
А колеру якога?

У л а д з і м і р

Я не ведаю...

Д а б р ы н я

У чым яна апранута была?!

У л а д з і м і р

Ні ў чым, здаецца...

Д а б р ы н я

Так, было ж Купалле...

У л а д з і м і р

Знайдзі яе...

Д а б р ы н я

Паслаў я два атрады.
Каб ведалі яны, каго шукаць,—
Знайшлі б даўно... І тым не менш шукаюць...

У л а д з і м і р

Знайдзі яе...
*(Выходзіць.)*

Д а б р ы н я

Зямля і неба ведаюць...
Ад дзеўкі можна сэрцам захварэць,
Але каб гэтак... гэтак ачмурэць —
Не варта смерда, што й казаць пра князя.

Уваходзіць с л у г а.

С л у г а

Дабрыня, да цябе дзівосны госць,
Не называецца, ў хусціне твар хавае.

Дабрыня

Хай зойдзе, я чакаю... Прынясі
Віна, дзве чары і для госця стравы.
А да мяне нікога не пускаць,
Нікога, апроч князя... Хай заходзіць.

Слуга выходзіць. Уваходзіць Блуд з завязаным хусцінай тварам.

Блуд

Вітаю дзядзьку лепшага на свеце!

Дабрыня

Мой Блудзе верны! Дай цябе абняць...
Адкуль цяпер?

Блуд

Я з Кіева.

Дабрыня

Да нас?

Блуд

Да вас па сэрцу... Службай ■ Рагвалоду...
У Полацк весткі важныя вязу.
Аднак сябрам раней іх трэба ведаць,
І я, загнаўшы вернага каня,
Праз Ноўгарад скачу да Рагвалода,
Для ног — даўжэй, ды карацей для сэрца.

Дабрыня

Прымі нашу любоў, мой верны дружа.
Князь Уладзімір для цябе як сын...

Блуд

Я спадзяюся, ён і сам так лічыць.

Дабрыня

Не сумнявайся. Вып'ем за цябе,
Бо ў Кіеве — ты лепшы наўгародзец.
Для князя Яраполка ты — слуга,
А князю Уладзіміру ты — бацька.
І неўзабаве прыйдзе час такі —
Як бацька будзеш ты і ўшанаваны.

Блуд

Віват!

Дабрыня

Віват! А зараз пі і еш...
Мы пра навіны пагаворым потым.

*Зацямненне*

## Карціна сёмая

Лес перад Полацкам. Драўляны ідал запырсканы крывёю. Уваходзяць Селянін і Палясоўшчык.

Селянін. Буду ахвяраваць. Палову біклагі віп'ем, палову хай п'е Ярыла. Ён маю дачку ўпадабаў... Пасля той ночы, як яна жанілася з ім і мазала жывот і ўсё астатняе крывёю пеўня... у мяне ўсё пайшло на лад.

Палясоўшчык. Налівай.

Селянін *(налівае)*. Каб жыта ўрадзіла і скот даў прыплод!

Палясоўшчык. Ярылу капні...

Селянін. Канечне... *(Вылівае з біклагі пад ідала.)* Гасподзі! О ты, што корміш нас, зрабі яшчэ раз ласку і пакажы шчодрасць люду свайму. *(Палясоўшчыку.)* Ну што, ты ўжо жлукціш? Стань на калені.

Палясоўшчык. Ага, ага...

П'юць.

*(Рэжа мяса.)* На, вяндліны...

Селянін. Ярылу адрэж.

Палясоўшчык. Ага...

Селянін. Пасля той ночы, калі Ярыла стаў маім зяцем... тры радасці ў хату... Жонка захварэла, сын зламаў нагу, і дачку забралі...

Палясоўшчык. Налівай...

Селянін *(налівае)*. Каб у ручкі, і ў ножкі, і пасярэдзіне трошкі!

Палясоўшчык. Ярылу...

П'юць. Палясоўшчык рэжа мяса.

Селянін. Ярылу...

Палясоўшчык. Ага... Дык, кажаш, тры радасці... Ну, жонка захварэла, яно зразумела. Хворая баба дабрэе і не так грызе мужыка. Астатнія радасці не разумею...

Селянін. Рагвалод набіраў весляроў на адзін са сваіх стругаў. Адабралі майго сына, а ён паламаў нагу. Паплылі без яго. На Дзвіне струг перакуліла... Усе весляры захлынуліся ў вадзе... А мой сын папраўляецца. Гэта радасць ці гора?..

Палясоўшчык. Шчасце...

Селянін. Дачку забралі...

Палясоўшчык. Гора...

Селянін. Пачакай... Забрала князёўна ў палац. Яна ёй цяпер пасцель сцеле. А мне далі віру.

Палясоўшчык. Што далі?

С е л я н і н. Віру...
П а л я с о ў ш ч ы к. Што?
С е л я н і н. Ну, як адкупнога, быццам...
П а л я с о ў ш ч ы к. Не разумею...
С е л я н і н. Ну, вось мы з табой нап'ёмся бражкі, пасварымся, і я цябе заб'ю.
П а л я с о ў ш ч ы к. Ну...
С е л я н і н. За тое, што я цябе забіў, мушу выплаціць тваёй жонцы віру... Мне ж заплацілі за тое, што дачку забралі ў палац. Я, дурны, хацеў яе за даўгі замуж аддаць за старога пляшывага ціўна, а мне князёўна — грошы (*паказвае грошы*). Во, зірні... Доўг вярнуў, і яшчэ засталося... За гэта можна новую хату паставіць і купіць каня...
П а л я с о ў ш ч ы к. Дык выгадна...
С е л я н і н. А я табе што кажу...
П а л я с о ў ш ч ы к. Налівай...
С е л я н і н. Не, не... Перад трэцяй два разы трэба павольна абысці вакол ідала...
П а л я с о ў ш ч ы к. Ага...

Выходзяць. З'яўляецца Р а г н е д а.

Р а г н е д а
Каторы раз прыходжу да цябе
І плачу каля ног тваіх, Ярыла...
Каго той ноччу ты мне падаслаў?
Чый пацалунак сэрца маё сушыць?
Хай знойдзецца, калі ён чалавек,
А калі дух, няхай душу пакіне.
Ён мне і бог цяпер і уладар,
Прымі, Ярыла, сціплы гэты дар.
*(Здымае срэбныя завушніцы і кладзе іх да падножжа ідала. Выходзіць.)*

Вяртаюцца С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к.

С е л я н і н. Мы прыйшлі сюды... Так?
П а л я с о ў ш ч ы к. Так.
С е л я н і н. Палову біклагі вырашылі выпіць... Так?
П а л я с о ў ш ч ы к. Так.
С е л я н і н. Палову біклагі вырашылі прынесці ў ахвяру Ярылу... Так?
П а л я с о ў ш ч ы к. Так.
С е л я н і н. Засталася роўна палова біклагі...
П а л я с о ў ш ч ы к. Гледзячы, якая палова засталася... Ці тая, якую мы выпілі, ці тая, якую трэба аддаць... Думаю, што тут тая, што мы выпілі, а, значыць, наша...

Селянін. Калі гэта палова наша, што застанецца Ярылу?

Палясоўшчык. Вяндліна з аленя...

Селянін. Скажы, палачанін, ты, калі не п'еш, закусваеш?

Палясоўшчык. Не.

Селянін. Чаму ж ты лічыш, што бог дурнейшы за цябе? Што ён будзе рабіць з аленінай без бражкі?

Палясоўшчык. Што ж рабіць?

Селянін. Будзем думаць.

Уваходзяць Браціла і Уладзімір.

Браціла

Тут князь! Ідзіце прэч, халопы.

Уладзімір

Пакінь іх... Хай ахвяру прынясуць.
Бо да багоў па-за чаргой не ходзяць.

Палясоўшчык

Вітаем шчыра князя.

Уладзімір

Гэта вы?
Сябры старыя! Рады вас пабачыць...
На жаль, без палявання сёння я,
Пачаставаць няма чым... *(Дружыннiку.)*
Дай ім грошай.

Селянін. Добры княжа! Ці знайшоў ты тую, якую згубіў...

Уладзімір. Не, не знайшоў...

Селянін. Тады шукай... і абавязкова знойдзеш. Бо мы летам так выпілі за яе здароўе, так выпілі, што жыць ёй гадоў трыста, не меней... А за трыста гадоў можна абысці ўвесь свет і памацаць кожную дзеўку...

Уладзімір. Выпіце і сёння за яе.

Селянін. Княжа! Мы, два палачаніны, прыйшлі сюды ахвяраваць палову біклагі бражкі Ярылу... Так?

Палясоўшчык. Так.

Селянін. Наш князь Рагвалод кажа, што пасля багоў самыя на зямлі важныя — князі... Так?

Уладзімір. Так...

Селянін. Князь! Дазволь прынесці ахвяру... палову біклагі бражкі замест Ярылы табе... А ты рабі з ёй што хочаш... Хоць і выпі...

Уладзімір

Прымаецца ахвяра, а цяпер
Я ёй распараджуся, як жадаю...
Хадзі сюды... Вось гэтая біклага
Вам праз мяне дарунак ад багоў...

П а л я с о ў ш ч ы к

Святы Ярыла! Цуда! Цуда здзейсніў!
Што аддалі — вярнулася назад.
Пайшлі, сусед...

Выходзяць.

У л а д з і м і р *(дружыннiку)*

Зірні, зірні! Што гэта?

Б р а ц і л а

Там завушніцы срэбныя. Дарунак
Ярылу ад дзяўчыны...

У л а д з і м і р

Дай сюды!

Б р а ц і л а

Князь, пашкадуй і загадай, што хочаш —
З абрыву скокнуць, пераплыць Дзвіну...
Мячом жывот разрэзаць... Я ахвяру
Чапаць не буду... Не чапай і ты...

У л а д з і м і р

Я іх пазнаў... Яна была тут! Богі!
Удзячны вам, вы падалі мне знак!

Б р а ц і л а

Князь, не чапай! Ярыла пакарае!

У л а д з і м і р

Калі ж караў Ярыла за любоў?
Скачы дадому і скажы Дабрыню,
Што я яе знайшоў, чакаю тут
І дачакаюся, хоць сто гадоў хай пройдзе!
Чаго стаіш? Пайшоў!

Б р а ц і л а

Я не пайду!

У л а д з і м і р

Што ты сказаў?! Пярэчыць свайму князю!
Прэч, раю! Заб'ю! Заб'ю!

Б р а ц і л а

І забівай!
Тады адзін ты тут і застанешся!
А я цябе пакінуць не магу!..
Я не пайду.

Уваходзіць Д а б р ы н я.

Д а б р ы н я

Дружыннік, да мяне!
Хто князю супярэчыць, тых караюць!
Ідзі. Я тут. Цяпер князь не адзін.

Б р а ц і л а

Хай князь даруе мне непаслушэнства.

Д а б р ы н я

Цябе караць, дружыннік, буду я
І за непаслушэнства і за вернасць,
Ты ўсё зрабіў.

Б р а ц і л а

Хай мне даруе князь.

У л а д з і м і р

Ты мне даруй...

Б р а ц і л а

Я гэтага не чую...

Д а б р ы н я

Ідзі.

Б р а ц і л а выходзіць.

Ты князь, альбо блазнюк?!
Паехаць аднаму ў чужое княства
І праганяць апошняга слугу?
Ды ты за наўгародскі край адказны,
І за табою тысячы людзей!
А ты развёў тут гуленькі, каханне...
Ты хто, Ўладзімір? Князь ці скамарох?
Над княствам набрыяла небяспека,
Ну, а табе тут соладка дурэць?
Шукаці дзеўку, што пабачыў голай?!

У л а д з і м і р

Маўчы!

Д а б р ы н я

Ды не! Не буду я маўчаць!
Я вырас з тваёю маці ў прыніжэнні,
Ёй пагарджалі, кпілі... Сапраўды,
Хто паважаці ключніцу павінен?..
Нават тады, калі яе любіў сам князь!

У л а д з і м і р

Ты маці не чапай!

Д а б р ы н я

Мая сястра!
І твая маці нарадзіла князя!
Цябе! Ды князем трэба стаць,
Таму што князь ты толькі напалову.
Ад Святаслава — князь, з Малушы — ключнік!

У л а д з і м і р

Так, ключнік! Ключнік! Ключнік, як і ты.

Д а б р ы н я

Ды не, пляменнік, я даўно не ключнік.
Я праз цябе вяльможай стаў... І я
Зраблю усё, каб ты зрабіўся князем.

У л а д з і м і р

Што адбылося?

Д а б р ы н я

Брат твой, Яраполк, прыслаў ганца
Да князя Рагвалода.

У л а д з і м і р

Дык што?

Д а б р ы н я

Яго дачку за жонку хоча ўзяць...

У л а д з і м і р

Няхай бярэ.

Д а б р ы н я

Ды ты зусім звіхнуўся!
За Яраполкам — поўдзень, а цяпер
Ён замахнуўся і на нашу поўнач...
Далучыць Кіеў, Полацк да сябе...
І Ноўгарад калі-небудзь далучыць.
Пакуль ганец у нас, табе патрэбна
Паслаць сватоў да князя Рагвалода.
Раней зрабіць патрэбна прапанову
За Яраполка...

У л а д з і м і р

Усё! Пакінь мяне...

Д а б р ы н я

Ты разумееш...

У л а д з і м і р

Хто тут князь?! Даволі!
Жаніцца трэба?! Дык жаніся сам!
Мне жонка зусім іншая патрэбна!

Д а б р ы н я

Хто ж галаву табе так задурыў?!

У л а д з і м і р

Яе чакаць... яе чакаць тут буду...
*(Выходзіць.)*

Д а б р ы н я *(услед)*

На беразе раскінуты шацёр...
Там вогнішча... Глядзі не застудзіся!
Заявіцца куды-небудзь каханне —
І там бязладдзе уладарыць стане...

Уваходзіць Б л у д.

Б л у д

Дабрыня, я чакаць больш не магу.
Я затрымаўся... Яраполк спытае,
Чаму ў яго такі марудны сват...
Я ўсё, што мог, зрабіў і расказаў...
Паеду ў Полацк...

Д а б р ы н я

Дзякую...

Б л у д

Яшчэ...
Загад ад Яраполка строгі маю...
Ўсё расказаць пра нараджэнне князя,
Каб Рагвалод мог ведаць, хто была
Ўладзімірава маці...

Д а б р ы н я

А навошта?

Б л у д

Ён так настроіць хоча Рагвалода,
Каб той і на парог вас не пусціў...

Д а б р ы н я

Ах, Яраполк... Ты ж родны брат па бацьку...
А можаш ты не выканаць загад?

Б л у д

Ты хочаш, каб мне ссеклі галаву?
На ёй жа вашы вушы й вашы вочы,
Каб чуць і бачыць Кіеў...

Д а б р ы н я

Гэта так...
Не ў час, не ў час Ўладзімір закахаўся.

Выходзяць. Уваходзіць Р а г н е д а.

Р а г н е д а

Святлее небакрай, спяваюць птушкі,
А на душы маёй халодны змрок.

Уваходзіць Л ю б а в а.

Л ю б а в а

Князёўна светлая! Дамоў вяртацца трэба.
Па вёсках пеўні ўжо даўно крычаць...

Р а г н е д а

Пабудзем яшчэ трошкі...

Л ю б а в а

Можна й болей...
Аднак ці будзе з гэтага карысць?

Мы правялі з табой тут колькі ночак.
І ўсё дарма...

Р а г н е д а

Ён прыйдзе...

Л ю б а в а

Можа быць...
І з'явіцца, ды я ўжо пасівею...
Зраблюся страшнай старую каргой...
Мяне тады й лясун не пакахае.

Р а г н е д а

Мне сэрца шэпча: недзе блізка ён.

Л ю б а в а

Князёўна мілая! Ды я табе дзіўлюся...
Бо ты ж заўсёды строгаю была...
І так размякла...

Р а г н е д а

Я й сама дзіўлюся.
У тумане ўсё... Я некуды плыву...

Л ю б а в а

Павер, мужчыны гэтага не любяць...
Ад холаду жаночага — гараць.
Ад нашай цеплыні адразу ж гаснуць...
Калі пагрэцца хочаш — астудзі.
Сама ж не разгарайся, ён астыне.
Я коні прывяду...

Р а г н е д а

Так, ехаць час...
Зноў без яго дзень новы надыходзіць.

Л ю б а в а выходзіць.

Святы Ярыла! Пуцявіны нашы
Звядзі хутчэй, хай спраўдзяцца ўсе сны...
А калі не, мне, мабыць, давядзецца
Ляжаць на дне сцюдзёнае Дзвіны.

З'яўляецца У л а д з і м і р.

Святы Ярыла...

У л а д з і м і р

Ён цябе пачуў!
І нас з табою звёў у гэтым лесе...

Р а г н е д а

Каханы мой, скажы, скажы мне, хто ты?

У л а д з і м і р

Той, хто цябе кахае...

Р а г н е д а

Скуль ты? Чый?

У л а д з і м і р

Я — твой...

Р а г н е д а

А дзе жывеш?

У л а д з і м і р

Не жыў яшчэ. Дагэтуль быў я мёртвым.

Р а г н е д а

Мяне твой пацалунак атруціў...

У л а д з і м і р

Ну, дык вяртай назад маю атруту...
*(Цалуе яе.)*

Р а г н е д а

Ты ўсё на гэтым свеце засланіў...

У л а д з і м і р

Мая... мая... салодкая пакута...
Якія вочы! Вусны... валасы...
Цябе багі на шчасце мне стварылі,
Адзіная мая, на ўсе часы,
Хай нас з табою зорны лес акрые.

Выходзяць. З'яўляецца Л ю б а в а.

Л ю б а в а *(спявае)*

Дзеўка коніка паіла,
На яе напаў Ярыла.
Кажа дзеўка: «Закрычу»,
А Ярыла: «Я хачу».
Кажа дзеўка: «Грэх прад небам!»
А Ярыла: «Трэба, трэба».
Кажа дзеўка: «Не губі!»
А Ярыла: «Палюбі».
Кажа дзеўка: «Будуць біці»,
А Ярыла: «Палюбіць ме».
Дзеўка коніка паіла
І Ярылу палюбіла.
Блаславі, Ярыла,
Каб было шчасліва,
На добрыя роды,
На доўгія годы,
А-а-ах!

*З а ц я м н е н н е*

# АКТ ДРУГІ

## Карціна першая

Полацк. Палац Рагвалода. Уваходзяць Р а г в а л о д і Б л у д.

Б л у д

Пасля таго як згінуў князь Алег
І Яраполк — старэйшы Святаславіч —
Паўсюль аднаасобна уладарыць,
Ён цесныя стасункі хоча мець
З табою, Рагвалод...

Р а г в а л о д

Ці азначае гэта,
Што ён і Полацк хоча ўзяць пад Кіеў?

Б л у д

Не, што ты, не! Зусім наадварот,
Бо ў Полацка і Кіеў пад уладай...
Цяпер ужо.

Р а г в а л о д

Як гэта разумець?

Б л у д

Наш Яраполк прачуў, што ты хаваеш
Зброю у цераме... Ты з ёю захапіць
Без войска зможаш Кіеўскае княства.
Князь Яраполк таму здаецца сам
На тваю літасць... Пашкадуй яго.
Хай Полацк будзе ў Кіеве, і Кіеў
У Полацку...

Р а г в а л о д

Дык пра Рагнеду рэч...

Б л у д

З мяне сват, адчуваю, атрымаўся!
Так, пра Рагнеду. Князь наш хоча знаць,
Ці варта прысылаць сватоў сапраўдных,
А не разведчыка, якім з'яўляюся я.

Р а г в а л о д

Пытанні ёсць...

Б л у д

Я тут, каб адказаць...

Р а г в а л о д

А князь у Полацку для Кіева намеснік?

Б л у д

Сам па сабе...

Р а г в а л о д

I не дае даніну?

Б л у д

Сям'я адна... З каго ж даніну браць?
Яно, канечне, калі гора прыйдзе,
Хазары узбунтуюцца, тады
Ты войскам Яраполку дапаможаш...
А калі тут бяда... Паможа Кіеў...
Адна сям'я...

Р а г в а л о д

Браты князь Уладзімір з Яраполкам,
Ды цяжка іх назваць адной сям'ёй.
Так касавурацца... нібы чужога роду.

Б л у д. Які ж свой род, князь Рагвалод... Яраполк старэйшы, чыста княскага роду... Законны князь і наследнік... А Уладзімір... Іх бацька Святаслаў неяк пасля паходу, добра мёду выпіўшы, пазабаўляўся з ключніцай сваёй маткі княгіні Вольгі... Пазабаўляўся як воін, а тая не дурніца... узяла дый зацяжарала... Бух княгіні ў ногі: маўляў, князя, унука твайго, у пузе нашу... А Вольга да той пары ў Канстанцінопалі ахрысцілася і ўсіх шкадаваць пачала... Пытае ў сына: быў з ёй... Ну, а што... ці мала з кім воін не быў... Калі так, загадала Вольга, будзе расці як твой сын... Так што калі Уладзімір і ад Святаслава, дык і то напалову ключнік, напалову князь... А калі Малуша схітравала, то Ноўгарадам цяпер уладарыць скамарох... Яны церліся каля дзеўкі...

Р а г в а л о д

Даволі! Нецікава гэта мне...

Б л у д

Ён твой сусед...

Р а г в а л о д

Пяройдзем лепш да справы.

Б л у д

Два княствы, аб'яднаныя ў адно
Тваёй дачкой,— магутнейшая сіла.
Хто нас застрашыць? Пераможа хто?
Суседзям трэба будзе далучыцца
Альбо табе і нам плаціць даніну.

Р а г в а л о д

Наддзвінне пражыве і без даніны.
Якая ў Яраполка прапанова?

Б л у д

За жонку хоча ўзяць тваю дачку
І мець цябе за цесця... і за друга.

Р а г в а л о д

Нам полацкія правілы дыктуюць.
Пра гэта запытацца і ў князёўны...
Гэй, хто там!

Уваходзіць М а м у л ь к а.

Няхай да нас князёўна зараз выйдзе...

М а м у л ь к а

Няхай даруе князь, але князёўны
Цяпер няма ў палацы.

Р а г в а л о д

Дзе ж яна?

М а м у л ь к а

На капішчы багам ахвяры робіць...

Б л у д

Князь Яраполк набожнасць ухваляе.
Для жонкі якасць першая... Дык што
Мне перадаць яму?

Р а г в а л о д

Маю падзяку...
За гонар найвялікшы і няхай
Да нас сватоў пад восень засылае...

Б л у д

Лепшых навін я ў Кіеў не прывозіў!
Дазволь руку табе пацалаваць
Як будучаму цесцю Яраполка.
*(Цалуе руку Рагвалоду.)*

Р а г в а л о д

За стол цяпер! Там нас чакаюць чары.
З наддзвінскім мёдам і дарамі лесу...

Выходзяць.

М а м у л ь к а

Хутка Рагнедачку ды ў Кіеў павязуць.
Саспела ягадка... Цяпер цябе з'ядуць.

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна другая

Лес. Капішча. Выява ідала. Уваходзяць С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к.

С е л я н і н. Смажыць...
П а л я с о ў ш ч ы к (*трасе біклагу*). Пуста...
С е л я н і н. Ну не ваду ж з Дзвіны піць?

П а л я с о ў ш ч ы к. А што?

С е л я н і н. А можа...

П а л я с о ў ш ч ы к. Ну?..

С е л я н і н. Пазычыць...

П а л я с о ў ш ч ы к. У каго?

С е л я н і н *(паказвае на біклагу каля падножжа ідала)*. Вўнь у яго...

П а л я с о ў ш ч ы к. Ты з глузду з'ехаў... Калі ахвярнае мы возьмем, нас жа...

С е л я н і н. Хто табе сказаў, што возьмем?! Пазычым... Потым аддадзім... Святы Ярыла, ты ж нас разумееш?.. Раз табе носяць бражку — значыць п'еш... А калі п'еш, ведаеш як паскудна, калі смажыць... Дазволь трохі ўзяць з гэтай ахвярнай біклагі... Аддадзім потым... Паспрыяй людзям тваім... А калі ты супраць — хай проста зараз гром грымне... хоць і неба чыстае... *(Паўза)*. Пералівай... Бачыш, усё ціха... Дзякуй табе, добры бог...

Пераліваюць вадкасць з біклагі ў біклагу і выходзяць.
З'яўляюцца Р а г н е д а і У л а д з і м і р.

Р а г н е д а

Здаецца, што на ўсёй, на ўсёй зямлі
Спакой і радасць...

У л а д з і м і р

А хіба ўжо ранак?
Як хутка ноч мінула...

Р а г н е д а

Ехаць час...

У л а д з і м і р

Дазволь яшчэ цябе пацалаваць.
*(Цалуе.)*

Р а г н е д а

Час... ехаць час... ды як жа развітацца?
І як цябе не бачыць і не чуць?
Не адчуваць, як апякаюць вусны вусны,
Каханы мой...

У л а д з і м і р

Каханая...

Уваходзіць Л ю б а в а.

Л ю б а в а

Ну, ўсё!
Я думаю, што нас ужо шукаюць,
Бо бацька твой дружыннікаў паслаў.

У л а д з і м і р

Дай развітацца нам!

Любава

А колькі можна?
Ды з усім светам можна развітацца
За гэты час... Князёўна, ачуняй!
Ты сёлета ў ахвяру нас прынесла.
Князь за цябе мне галаву ссячэ!

Рагнеда

Бывай...

Уладзімір

Бывай... Давай паедзем разам...

Рагнеда

Не, што ты, нельга...

Уладзімір

Што ж прыдумаць мне,
Каб побач трошкі болей затрымацца?..

Рагнеда

Ды ты не побач, ты жывеш у сэрцы.
Ты мною стаў, і ты заўжды са мной,
Бывай...

Уладзімір

Бывай... Не! Трошкі пачакай.

Любава

Усё спачатку! Што ж гэта за гора?
Не толькі дзень, надыдзе так і старасць...
«Бывай — бывай» і зноў «бывай — бывай» —
Гэтак з жыццём развітвацца трэба.
Дык, пэўна, аніколі не памрэш...

Уладзімір

Абдымемся апошні раз...

Рагнеда

Апошні?

Уладзімір

Пакуль сваты, заручыны, вяселле...
І урачысты абыход Ярылы,
Злучыўшы рукі... Разам нам не быць...

Любава

Я зараз закрычу...

Рагнеда

Бывай, мой любы...

Уладзімір

Чакай мяне...

Рагнеда

Я ўсё жыццё чакала...

Рагнеда і Любава выходзяць.

Уладзімір

Жыццё табе, Ярыла, ахвярую
За гэту ноч, за шчасце, што ты даў.
Ўва мне нават і княскага нямнога,
Я ж зараз адчуваю сябе богам...
*(Выходзіць.)*

*Зацямненне*

## Карціна трэцяя

Лес. Дабрыня і Блуд.

Дабрыня

Як Рагвалод сустрэў цябе?

Блуд

Гасцінна...

Дабрыня

І згоду даў?

Блуд

А хто б яе не даў?
Дачка — княгіня Кіеўскага княства.
Яму спакойна можна паміраць.
Цяпер будзе каму дагледзець Полацк
І вырасціць малых яго сыноў...
Ён пад крылом у Кіева... час ехаць...
Бывай, Дабрыня...

Дабрыня

Весткі падавай...
Ты ў Ноўгарадзе госць заўжды чаканы,
Не забывай... Як зможаш — прыязджай...
Вось наш табе гасцінец на дарогу.
Лёгкага шляху...

Блуд

Дзякуй...

Дабрыня

Бывай...
*(Перадае яму кошаль. Выходзіць.)*

Блуд

Калі служыць двум ворагам сумленна,
Здабудзеш перамогу несумненна,
Хто б з іх у рэшце рэшт ні перамог...
Аддзячыць, бо яму ты дапамог...
*(Выходзіць.)*

*Зацямненне.*

## Карціна чацвёртая

Полацк. Палац Рагвалода.
Р а г в а л о д і Р а г н е д а.

Р а г в а л о д
Багі тае ахвяры ўпадабалі,
За частыя малітвы па начах,
І за бяссонне у лясах наддзвінскіх,
Цябе узнагародзілі...
Р а г н е д а
Мяне?..
Р а г в а л о д
Цябе, мяне і полацкі ўвесь люд!
Старэйшы Святаславіч Яраполк,
Што ў Кіеве цяпер вялікім князем,
Вялікі гонар Полацку зрабіў
Сваім жаданнем парадніцца з намі.
Чаму збялела ты? Няўжо не рада?
Р а г н е д а
Мне млосна, бацька... Можна, я пайду?
Р а г в а л о д
Ты захварэла?
Р а г н е д а
Я пайду...
Р а г в а л о д
Рагнеда!
Па полацкіх законах трэба мне
Спытацца і ў дачкі пра яе згоду...
Сваю я згоду Яраполку даў...
Р а г н е д а
Раней мяне?
Р а г в а л о д
Цябе тут не было,
Дый што з таго? Адмовіць было нельга...
Тут княства лёс... Дзяржаўны інтарэс...
А ён за ўсё... за ўсё заўжды вышэйшы...
Р а г н е д а
Не, не за ўсё! Ёсць нешта і вышэй...
Р а г в а л о д
Я не пачуў... Скажы больш зразумела...
Р а г н е д а
Нам сэрца, бацька, дадзена багамі,
Каб слухаць іх загады...

Р а г в а л о д

Ну дык што?

Р а г н е д а

Маё цяпер ірвецца і крычыць:
«Не! Не!»

Р а г в а л о д

Што «не»?

Р а г н е д а

А тое, што ніколі
Для Яраполка жонкай мне не быць.
Ты паспяшаўся згоду даць...

Р а г в а л о д

Спыніся!
Ты з бацькам размаўляеш!

Р а г н е д а

Ты — з дачкой...
Не прымушай грашыць яе...

Р а г в а л о д

Што чую?!

Р а г н е д а

Для Яраполка жонкай мне не быць!

Р а г в а л о д

Дык бацька твой, выходзіць, проста хлус?
Ці балбатун?! Ці пустазвон дурненькі?
Не гаспадар для слоў і абяцанняў?
Рагнеда, ты жартуеш недарэчна...

Р а г н е д а

Укленчыўшы, прашу цябе: даруй...
Даруй мне дзёрзкасць і непаслушэнства,
Але сваё рашэнне адмяні...

Р а г в а л о д

Я згоду даў, а, значыць, гэта згода...
Твая таксама!

Р а г н е д а

Бацька, пашкадуй!
Не разбурай Ярылы падарунак,
Ад гэтага слязьмі зальёмся мы...

Р а г в а л о д

І што ж падараваў табе Ярыла?

Р а г н е д а

Каханне...

Р а г в а л о д

Ах, дык вось тут што... Каханне...
Князёўна ты! Халопкі хай кахаюць.

Дурноту гэту выкінь з галавы...
Хто б ён ні быў... Цябе чакае Кіеў...

Р а г н е д а

Мяне не дачакаецца ніхто!
Апроч яго...

Р а г в а л о д

Нахабніца! Маўчаць!
Распесцілася ад любові бацькі!
І яшчэ будзеш голас падымаць?!.

Р а г н е д а

Усім святым малю...

Р а г в а л о д

Даволі! Стража!

Уваходзяць с т р а ж н і к і і М а м у л ь к а.

Князёўну ў верхні церам адвядзіце
І там пастаўце варту... Каб ніхто...
Не змог зайсці туды... дазвол не атрымаўшы.
Ідзі рыхтуйся! Бо сваты прыедуць...

Р а г н е д а

Праз слёзы бачу я адчай і беды,
Апошні раз прашу...

Р а г в а л о д

Усё, ідзі!
*(Да Мамулькі.)*
А ты яе служанку прывядзі...

М а м у л ь к а

Пайшлі, Рагнеда... Слухаць бацьку трэба...

Р а г н е д у выводзяць.

Р а г н е д а

Праз слёзы бачу я адчай і беды...

Р а г в а л о д

Вось! Ад дачкі адна для бацькі радасць...
Як ні хавай яе — спакусяць і украдуць.

М а м у л ь к а прыводзіць Л ю б а в у.

Л ю б а в а

Я слухаю пачціва свайго князя...

Р а г в а л о д

Усё, што толькі ведаеш, кажы...

Л ю б а в а

Ды я і больш сказала б... Толькі што?

Р а г в а л о д

Куды з князёўнай ездзілі?

Любава

Маліцца...

Рагвалод

І хто маліцца вам дапамагаў?

Любава

Няхай даруе князь — не разумею...

Рагвалод

Кажы: з кім сустракалася Рагнеда?
Ці мне паклікаць грыдня з бізуном?

Любава

Князь, пашкадуй! Рагнеда мне як маці.
І як сястра... Як мне яе прадаць?

Мамулька

Няшчасная! А ён хто? Печанег?
Ці бацька родны?

Рагвалод

З кім яна была?
Хто-небудзь з палачан?

Любава

Князёўна хай даруе...

Рагвалод

Прасі багоў, каб даравалі і я...

Любава

Яна сустрэла ўлетку выпадкова...
Калі дзяўчаты жэняцца з Ярылам.
Прыгожага і знатнага хлапца.

Рагвалод

Хто ён такі?

Любава

Не ведаю...

Рагвалод

Кажы!

Любава

Не ведаю. Апрануты быў чыста.
Сватоў сваіх паабяцаў прыслаць...

Рагвалод

Калі сваты прыедуць да мяне,
Замест яе ты ім і скажаш: «Не!»

*Зацямненне*

## Карціна пятая

Ноўгарад. Палац Уладзіміра. Уладзімір, дружыннікі, слугі, скамарохі, гусляры.

Дружыннікі *(спяваюць і танцуюць)*
Налівай мёду, налівай,
Праслаўляй князя, праслаўляй,
Слава Уладзіміру!
Слава Уладзіміру!
За тваё княства і за нас
Выпівай чару, светлы князь,
Добры наш бацюхна!
Добры наш бацюхна!

Уладзімір
Усім віна! І п'ём за палачанку!

Дружыннікі
Віват! Віват!

Уладзімір
За светлую князёўну!

Брацiла
А як завуць?

Уладзімір
Дазнаешся яшчэ...
Яна тут хутка будзе гаспадыняй.
І калі жонка ёсць у Перуна,
Дык наша ёй нікольні не саступіць.

Брацiла
За палачанку! Жонку Перуна!

Уладзімір
Яе не аддамо і Перуну!

Брацiла
Сам Перуном стань...

Уладзімір
Пахмяліся, грэшнік!

Уваходзіць Дабрыня.

Дружына! Перад дзядзькам на калені!
Я ж на каленях чару паднясу...
*(Становіцца з чарай на калені.)*

Дабрыня *(ціха Уладзіміру)*
Ты адурэў, Уладзімір! Што ты робіш?!
Князь на каленях...

Уладзімір
Слухаць! Бо я князь!..

Як князь і гавару перад дружынай,
Быў дурнем, што не слухаўся цябе...
А надалей, клянуся, буду слухаць...
Хоць загадай хадзіць на галаве...

Д а б р ы н я

Устань і не саром мяне...

У л а д з і м і р

Не, выпі!
Да дна за палачанку...

Д а б р ы н я *(хутка выпівае)*

Уставай!
З якой нагоды зладзіў ты гулянку?
І за якую піў я палачанку?
Няўжо знайшоў? І хто яна?

У л а д з і м і р

Князёўна...

Д а б р ы н я

Па прыгажосці, можа, і князёўна.
А род які?

У л а д з і м і р

Род княскі... Прыгажосцю ж
Яна не роду княскага... Багіня...

Д а б р ы н я

Няўжо гэта Рагнеда?

У л а д з і м і р

Так, яна...

Д а б р ы н я

Дык я магу у сваты зараз ехаць?

У л а д з і м і р

Злуюся, што ты ўчора не паехаў...
Але у гэтым вінен толькі я...

Д а б р ы н я

Дазволь мне дзейнічаць?

У л а д з і м і р

І як мага хутчэй...
*(Выходзіць.)*

Д а б р ы н я

Браціла, да мяне! Пакінуць чару!
Сядлаць каня! І па шляху на Кіеў!
Скачы без адпачынку дзень і ноч...
Дагоніш Блуда...

Б р а ц і л а

Што тут госцем быў?

Д а б р ы н я

Так, той...
Папросіш завярнуцца,
А не пагодзіцца, то затрымай сілком.
У Кіеў не павінен ён даехаць
З той весткаю, якую атрымаў...
Ад Рагвалода...

Б р а ц і л а

Усё зраблю...

Д а б р ы н я

Вазьмі
З сабой атрад і лепей упрасі...
Скажы, я заклінаю на каленях
Яго на тыдзень госцем затрымацца,
Аддзячу я, і князь яму аддзячыць.
Скачы!

Б р а ц і л а выходзіць.

*(Другому дружынніку.)*
Ты ж зараз на каня,
Імчы у Полацк, скажаш Рагвалоду,
Што дзядзька Уладзіміра, Дабрыня,
З важным візітам мусіць хутка быць
Ля ног яго з вялікай прапановай,
Яна змацуе наша з іхнім княствы.
Скачы!

Д р у г і д р у ж ы н н і к выходзіць.

Збірайце скуры лепшых гарнастаеў,
Куніц! Баброў! І золата! І срэбра!
Грузіце бочкі грэцкага віна!
Надзеньце заўтра лепшыя апраткі.
Пачысціць зброю! Вычасаць каней!
Сабе княгіню едзем здабываці!
Ёсць бацька ў Ноўгарада! Хутка будзе маці!

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна шостая

Полацк. Палац Рагвалода. Р а г в а л о д і М а м у л ь к а.

М а м у л ь к а

Сваты ідуць! Усё як на Каляды:
Музыкі, скамарохі, гусляры

Кідаюць грошы, пояць жабракоў,
Даюць усім багатыя дарункі...
Рагнеду славяць!

Р а г в а л о д

Прывядзі яе...

М а м у л ь к а выходзіць.

Ты тут, Любава? Выйдзі да мяне...

Уваходзіць Л ю б а в а.

Л ю б а в а

Я слухаю...

Р а г в а л о д

Ты ўсё дакладна зробіш?
Ты ўсё запомніла?

Л ю б а в а

Даруй мне, любы князь...
Пусці мяне і іншай загадай...

Р а г в а л о д

Ўсё зробіш ты!

Л ю б а в а

На сэрцы маім жах!
І прадчуванне жудасці і гора...

Р а г в а л о д

Ідзі і праз хвіліну будзь гатовай.
Пасля чакай, калі цябе паклічуць.

Л ю б а в а

Хай мне багі грэх гэты не залічаць.
*(Выходзіць.)*

Уваходзяць Р а г н е д а і М а м у л ь к а.

Р а г в а л о д

Ты чуеш, колькі гоману і шуму?
Гэта сваты па Полацку ідуць...

Р а г н е д а

І да каго яны?

Р а г в а л о д

Ды да цябе...

Р а г н е д а

Нашто?
Я ўжо даўно сасватана Ярылам...

Р а г в а л о д

Але законы Полацкага княства
Прыняць сватоў гасцінна патрабуюць.
І даць адказ ім...

Р а г н е д а

Што ж, даю адказ:
Я ніколі не паеду ў Кіеў!
Хутчэй Дзвіна на поўдзень пацячэ
І за зімой надыдзе злая восень
Замест вясны, а потым зноў зіма...

Р а г в а л о д

Сваты не з Кіева...

Р а г н е д а

А скуль яны?.. Ўладзімір!!!
Каханы мой! Дзе ж гэтулькі ты быў?!
Я удвая за тыдзень пастарэла...
Сюды! Сюды, мой любы, я — твая...
Хай лішніх слоў сваты твае не трацяць...
З табой! З табой! Вязі, куды захочаш...
Не павязеш, я следам пабягу...
Каб толькі побач быць і цябе бачыць!

Р а г в а л о д

Вар'ятка! Завядзіце яе ў церам!
Яе дурманам нехта апаіў...

Р а г н е д а

Што будзе заўтра, княжа мой, не знаю,
Але цябе кахаю і чакаю...

Р а г н е д у выводзяць.

М а м у л ь к а

Князь... Сэрцам адчуваю: тут каханне...
Усіх змяце, хто супраць яго стане...

Р а г в а л о д

Ідзі адсюль і апранай Любаву...
Кахае княскі род толькі Дзяржаву!

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна сёмая

Вуліца Полацка. Д а б р ы н я і Б р а ц і л а.

Б р а ц і л а

Сячы маю, Дабрыня, галаву...
Я Блуда не дагнаў...

Д а б р ы н я

Ты прамарудзіў!

Б р а ц і л а

Скакалі дзень і ноч... Здыхалі коні...
За княствам, ля дубровенскіх гаёў,
Там, дзе Дняпро зварочвае на поўдзень,
Яго атрад даўно чакалі стругі...
Паднялі ветразі (папутным вецер быў),
Ды па цячэнню... Як нам па балотах
Дагнаць было па беразе?..

Д а б р ы н я

Няхай!..
Няхай вязе, што толькі абяцалі...
Пакуль прыедуць — ўсё тут разабралі...
Памыйся! Бо у княстве хутка свята
І на ўсю поўнач радасці багата!

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна восьмая

Палац Рагвалода. Р а г в а л о д і Д а б р ы н я.

Д а б р ы н я

Мы заблудзіліся ў тваіх лясах і пушчах
І прамачылі ногі у Дзвіне…
Дазволь нам, княжа, трошкі прасушыцца.
У горле суха, ломіць у спіне...

Д р у ж ы н н і к і *(спяваюць)*

Мы з дарогі збіліся,
Коні прыгаміліся,
Ці не пусціш ты нас
Ў добры час...

Р а г в а л о д

Полацк гасцям заўсёды вельмі рады.
За стол прашу... Гэй, слугі, ўсім віна!
Гасцей шаноўных добра пачастуйце!
Вас, госцейкі, прашу мне расказаць,
З якога краю будзеце і хто
Цяпер за князя ў вашым родным краі...

Д а б р ы н я

Мы з Ноўгарада-горада, стаіць
Той горад каля возера Ільменя,
Князь Уладзімір сёння княжыць там,
Ён Святаслава сын, і сын малодшы.

І вось не так даўно... Па нашай просьбе
Прыйшоў на наўгародскі наш пасад...
Жывём цяпер шчасліва і багата,
Ды нешта князь пачаў наш сумаваць...

Р а г в а л о д

Што ж здарылася з ім?

Д а б р ы н я

Аднойчы ехаў
Ён каля Полацка і нешта ўпадабаў
У тваім княстве і за гэта «нешта»
Гатовы княства роднае аддаць,
З людзьмі, з багаццем, з возерам Ільменем.
Вазьмі ўсё гэта, добры Рагвалод,
А нам аддай ты толькі гэта «нешта»...

Д р у ж ы н н і к і *(спяваюць)*

Табе славу пяюць нашы волаты,
Мы заплацім табе срэбрам-золатам,
Лепшы мёд, лепшы стол Наўгарода,
Для гасцей, для сыноў Рагвалода...

Р а г в а л о д

Ці не маю кабылу князь ваш хоча?

Д а б р ы н я

Ён дасць табе іх тысячу...

Р а г в а л о д

Дык што ж?
Яшчэ мядзведзі ёсць на ланцугах...

Д а б р ы н я

Іх шкурамі да нас твой шлях пасцелем...

Р а г в а л о д

А мо мой меч?

Д а б р ы н я

Гэй, дзецюкі, сюды!
Зброю ў дарунак князю паднясіце...

Дружыннікі падносяць Рагвалоду зброю.

Ад Уладзіміра ў дарунак як суседу...
За «нешта» ж зусім іншым будзе кошт...

Р а г в а л о д

Ну дык скажыце, што гэта за «нешта»?

Д а б р ы н я

Тое, што бацька больш за ўсё шануе,
Так любіць-песціць, але ўсё ж аддасць,
Калі надыдзе час... і будзе рады...
Што гэта «нешта» некаму аддаў...

Д р у ж ы н н і к і *(спяваюць)*

Чулі ўсе, чулі ўсе праз паўсвета:
Ёсць у князя дачушка Рагнеда...
І прыслаў, і прыслаў сюды нас
Малады, малады, светлы князь!

Р а г в а л о д

Разгублены я трохі...

Д а б р ы н я

Нам вядома...
Сватоў яшчэ у князя не было...
Князёўна свайго слова не казала...
Дык скажа хай...

Р а г в а л о д

Па полацкіх законах...
Яна павінна з сватам размаўляць...
Пры бацьку... Хай астатнія ўсе выйдуць,
На вуліцы для ўсіх багаты стол...

Усе, апроч Дабрыні, выходзяць.

Цяпер сюды князёўну пазавіце...

Уваходзіць Л ю б а в а ва ўбранні князёўны Рагнеды.

Д а б р ы н я

Я свайго князя зараз разумею,
Тут можа загарэцца нават лёд,
І старац мудры зможа розум страціць...

Р а г в а л о д. Рагнеда! Князь наўгародскі Уладзімір аказаў вялікі гонар Полацкаму княству і табе... Ён просіць цябе стаць яго жонкай і княгіняй наўгародскай... Пытаюся: што скажаш ты пасланніку князя Уладзіміра і свату?

Л ю б а в а *(ва ўбранні Рагнеды)*. Хто бацька Уладзіміраў быў?

Д а б р ы н я. Князь кіеўскі быў... Слаўны Святаслаў, сын Ігара і Вольгі...

Л ю б а в а

Ну а маці?

Д а б р ы н я

А маці была простаю дзяўчынай,
Цнатлівай, сціплай... Князь яе любіў...
І сына гадаваў ў сям'і як князя...

Л ю б а в а

Па старадаўнім звычаі я мушу
Прад шлюбным ложам мужа разуваць...
Ды як мне разуваць рабыні сына?..

Д а б р ы н я

Ён князь... І Святаслава сын...

Л ю б а в а

Як Яраполк...
Але ў таго была княгіняй маці...
Была княгіняй маці і ў мяне...
Вярба каля вярбы расці павінна,
Дуб каля дуба... Ля сасны сасна...

Д а б р ы н я

Мне... гэта... князю... так і перадаць?
Ён жа цябе... Ён жа цябе... кахае,
Рагнеда, ён жа трызніць... Ён не спіць...
Ты для яго вышэй багоў і сонца.

Л ю б а в а

Даруйце, я пайду...

Р а г в а л о д

Ідзі, дачка...

Л ю б а в а выходзіць.

Яна ўсё шчыра сэрцам гаварыла...

Д а б р ы н я

Разбіла толькі сэрцы нам усім...
Туман паўсюдна, знікла сонца з воч...
І ва ўсім свеце... гаспадарыць ноч...
*(Выходзіць.)*

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна дзевятая

Бераг Дняпра ў дубровенскіх гаях. Уваходзяць Д а б р ы н я і Б л у д.

Б л у д

Вітаю дзядзьку!

Д а б р ы н я

Дзякуй, што прыехаў...

Б л у д

Чаму ты змрочны?

Д а б р ы н я

Змрочны? Ды не змрок!
Цяпер на маім сэрцы злая цемень
І чарната... Нам наплявалі ў твар!
Прынізілі і жорстка растапталі...
Як жабракоў прагналі са двара!
Паслаў мяне Уладзімір да Рагнеды...

Б л у д

Адмовіла?

Д а б р ы н я

Сказала, што ён раб!
А разуваць раба яна не будзе!
Я да цябе прыехаў па параду...
Ён ад яе здурэў... Ён закаханы!
Дазнаецца, то распачне вайну!
Мой верны Блуд, парай, што мне рабіць?

Б л у д

Ўсё раскажы, дый больш напрыдумляй!
Каб князь адчуў абразу як мужчына!
Каб уваччу ад злосці памутнела,
Каб сам Пярун у сэрцы загрымеў,
Тады адчуе ён сябе зубром,
Той за сяброўку рогі свае зломіць
Ці скруціць шыю ворагу...

Д а б р ы н я

А Кіеў?

Б л у д

Вам Яраполк цяпер зусім не страшны,
У Кіеве ніхто яго не любіць,
Чакаюць, каб там княжыў Уладзімір,
Ён, як народ, пайшоў сам пад ахвяру...
На роўных з простым людам... Ён — герой!
Пачне вайну? Няхай і пачынае!
Ўсім закаханым бог дапамагае...

Д а б р ы н я

Бывай...

Б л у д

Бывай...

Д а б р ы н я

А за параду дзякуй.
*(Выходзіць.)*

Б л у д

Два княствы, два браты і два сябры...
Адна Рагнеда... Побач два зубры!
Хай б'юцца, будзем мы дапамагаць,
Таму, хто будзе ўсіх перамагаць.
*(Выходзіць.)*

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна дзесятая

Полацк. Каля палаца. Уваходзяць Рагвалод, Любава. Мамулька і слуга нясуць непрытомную Рагнеду.

Рагвалод
Што з ёю?
Любава
Мы з пятлі яе дасталі...
Мамулька
Адрэзала нажом сваю касу
І з валасоў спляла сабе вяроўку...
Каб я туды выпадкам не зайшла...
Рагвалод
Дачушка... Што ты? Чуеш?
Рагнеда
Уладзімір...
Рагвалод
Нясіце як хутчэй яе ў палац!
Любава
Яна з тугі па ім памерці можа
Ці кінецца ў Дзвіну... Князь, я прашу...
Рагвалод
Нясіце! І дружынніка сюды!

Любава і слуга выносяць Рагнеду.

Мамулька
Князь, ёсць закон багоў... Закон адвечны:
Каханню супярэчыць небяспечна.
Рагвалод
Любы закон парушыць можна князю,
Каб толькі слова княскае стрымаць!
Мамулька
Утопіцца...
Рагвалод
А я ўтаплю цябе!
Мамулька
За што?
Рагвалод
Што недагледзела князёўну!
Нідзе яна не дзенецца, астыне.
Каханне з часам ад разлукі згіне!
Мамулька
Ой, князь, глядзі, каб не было бяды.

Р а г в а л о д

Ідзі адсюль! Дружынніка сюды!

М а м у л ь к а выходзіць. Уваходзіць д р у ж ы н н і к.

У Ноўгарад скачы і там скажы,
Што я хачу Ўладзіміра пабачыць,
Абмеркаваць з ім важныя пытанні.
Хай прыязджае ў госці найхутчэй
Ці ў Ноўгарадзе сам мяне сустрэне.

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна адзінаццатая

Ноўгарад. Палац Уладзіміра. У л а д з і м і р і Д а б р ы н я.

У л а д з і м і р

Не! Не! І не! Ніколі не паверу!
Няхай не толькі ты, а ўсе багі
Перада мной засведчаць яе словы —
Ўсё гэта будзе страшнаю хлуснёй!
Напраслінай! Яна не гаварыла!

Д а б р ы н я

«Я разуваць рабыніча не буду...
Бяроза хай расце каля бярозы,
Дуб каля дуба, ля сасны сасна...»
Не роўня ёй...

У л а д з і м і р

Маўчы!

Д а б р ы н я

Я памаўчу...
Крычыць маё скрываўленае сэрца...
І сэрца тваёй маці... Прыніжэнняў
Багата ёй і ў Кіеве было...
А гэта твая полацкая сучка
Змагла яе і мёртвую прынізіць:
«Не буду разуваць рабыні сына».
Не князь ён! Смерд і раб! Чарвяк паганы
Надумаўся папнуцца ў жаніхі...
Так зганьбіць княства наша і цябе!
І выбраць Яраполка...

У л а д з і м і р

Яраполка?!

Д а б р ы н я

Яна сказала так...

У л а д з і м і р

Няпраўда! Не! Няпраўда!

Д а б р ы н я

Навошта мне маніць? Хіба не я...
Маліў, каб ты сватоў паслаў у Полацк?
Паспеў ёй нейкі нелюдзь расказаць,
Хто нарадзіў цябе і кім была Малуша...
Паскудны княскі гонар і ўзыграў...
І пацягнуў яе да Яраполка...
Яна яго разуе перад тым,
Як будзе ногі падымаць у ложку...

У л а д з і м і р

Я — раб! Я — раб! Я — раб і сын рабыні...
Рабам не дазваляецца кахаць!
Яны каханне здабываюць сілай!
І твораць бессаромна на вачах
Жыцця для ўсіх святую таямніцу...
Я — раб! Я — раб! І я хачу князёўну!
Яна мяне не хоча разуваць...
Я і абуты ёй абрэжу косы...
На Полацк! Пад мячы ўсё! Пад агонь!
Хай гэты горад у пакутах згіне!
Рагнеду — мне! Астатняе — дружыне!
*(Выходзіць.)*

З'яўляецца Б р а ц і л а.

Б р а ц і л а

Там з Полацка ганец прыбыў да князя.

Д а б р ы н я

Забі яго! Бо з Полацкам вайна.

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна дванаццатая

Полацк. Пажар. Гвалт. Уваходзіць У л а д з і м і р.
Два д р у ж ы н н і к і цягнуць Р а г в а л о д а.

Р а г в а л о д

Аддай мой меч! Я буду з табой біцца!

У л а д з і м і р

Я — раб! Я з князем біцца не магу!
У церам! У пакоі да князёўны —

Там прывязаць і хай на ўсё глядзіць!
Як раб з князёўнай будзе забаўляцца.
Папросіць смерці — зараз жа забіць!
А не папросіць — хай жыве да скону!

Рагвалода выводзяць. Дабрыня і Брацiла цягнуць Любаву.

Дабрыня

Князь, вось яна!

Уладзімір

Ды гэта не яна!
Яе служанка!

Дабрыня

Што?! Яе служанка?!

Уладзімір

Шукаць яе! Усім шукаць Рагнеду!
*(Выбягае.)*

Дабрыня *(Любаве)*

Дык ты служанка? Што ж, ідзі да слуг!
Бяры яе... Хай пройдзе страшны круг...

Выходзяць. Шум бітвы.
Уваходзяць Селянін і Палясоўшчык.

Селянін. Куды вы гледзіце, ідалы?! Нашто стварылі нас?! Каб мучыць?.. Праклятыя... Ненажэрныя! Крыві вам мала! Ахвяр! Даўбешкі вы, а не багі! Крывасмокі! І князі вашы дурныя!

Палясоўшчык. Маўчы! На, выпі...

Селянін. Не хачу!

Выходзяць. Брацiла цягне за валасы Рагнеду.
Убягаюць Уладзімір і Мамулька.

Уладзімір

Гэй, раб, сюды! Аддай рабу князёўну!

Мамулька

Не руш яе!

Брацiла

Ану, вядзьмарка, прэч!
*(Забівае яе.)*

Мамулька

Каб вас Пярун спаліў!
Бывай, мая дачушка...
*(Памірае.)*

Рагнеда

Звяры паганыя!

У л а д з і м і р

Са зверам ляжаш спаць!
Вядзі ў пакой! Здзяры з яе сарочку!
Я спраўлю табе рабскае вяселле!

Р а г н е д а

Што ж яшчэ можа справіць брудны раб?
*(Плюе яму ў твар.)*

У л а д з і м і р

Вядзі яе!

Выходзяць.

*З а ц я м н е н н е*

## Карціна трынаццатая

Полацк. Пажарышча. Цішыня.
Уваходзяць С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к.

С е л я н і н *(плача)*. Чым? Чым я вінен, што князь мой абразіў князя чужога... Чым вінаватая дачка мая, што ў нас гордая князёўна... За што яе замардавалі... За што яе грудзі парэзалі?.. Сына засеклі... Хату спалілі... Каб вас Пярун спаліў... Сына засеклі... Грудзі парэзалі...

П а л я с о ў ш ч ы к. На, выпі...

С е л я н і н. Праклятыя...

П а л я с о ў ш ч ы к. Маўчы! Княскую сям'ю захапілі... князёўну пры бацьку, пры дружыне, на вачах ва ўсіх... Рагвалод сам смерці папрасіў... Усіх пасеклі...

Уваходзіць Б р а ц і л а.

Б р а ц і л а. Вы! Прэч адсюль... Тут хутка будзе князь...

П а л я с о ў ш ч ы к. Хадзем, чаго сядзіш...

Б р а ц і л а. Ты што, не чуеш?

Селянін раптам кідаецца на Брацілу і б'е яго нажом. Брацiла падае.

П а л я с о ў ш ч ы к. Ты ачумеў! Хутчэй, бяжым хутчэй!

С е л я н і н. Не, пачакай... Я горла перарэжу...

Выходзяць. Уваходзяць Р а г н е д а і Л ю б а в а.

Р а г н е д а

Ты, Уладзімір, раб! І сын рабыні...
У тваім сэрцы звер, а не любоў.

Аддай мяне дружыне, толькі ведай:
Я твайго сына потым нараджу,
Ён будзе запаскуджаным...

Л ю б а в а

Князёўна...
Князь загадаў з табой нас вартаваць.
Нас не зачэпяць...

Р а г н е д а

Полацкая кроў,
Што у Дзвіну цяпер сцякае, выйдзе
З тваіх нашчадкаў... Я іх праклінаю...
Хай будзе смага ў іх на кроў братоў,
Бацькоў, сясцёр, сваіх сяброў і блізкіх...
Хай не спатоліць гэту смагу час...
Ні заўтра, ні пазаўтра, аніколі...
Не мець ім шчасця, ні дабра, ні волі...

Л ю б а в а *(спявае)*

Блаславі, Ярыла,
Каб было шчасліва,
На добрыя роды,
На доўгія годы
А-а-ах!

*З а ц я м н е н н е*

**Ад аўтара**. Уладзімір... Пасля знішчэння Полацка захапіў Кіеў, забіў свайго брата Яраполка, а жонку яго зрабіў сваёй наложніцай. Праз дзесяць гадоў гвалтам увёў на Кіеўскай Русі хрысціянства.

Кананізаваны Рускай праваслаўнай царквой як роўнаапостальны святы.

Памёр у 1015 годзе.

Рагнеда... Была першай жонкай Уладзіміра пад славянскім імем Гарыслава. Праз дзевяць месяцаў пасля знішчэння Полацка ў яе нарадзіўся сын Ізяслаў. Пасля замаху на жыццё Уладзіміра разам з сынам выселена з Кіева ў Заслаўль. Памерла ў 1000 годзе хрысціянкай пад імем Анастасія...

*К а н е ц*

*1997*